**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 5.04, 21.26, 16.22;
Віцебск — 4.47, 21.23, 16.36;
Магілёў — 4.53, 21.15, 16.22;
Гомель — 4.59, 21.04, 16.05;
Гродна — 5.22, 21.39, 16.17;
Брэст — 5.29, 21.33, 16.04.

**МЕСЯЦ:**
Поўня 14 ліпеня.

**ІМЯНІНЫ:**
Казанскай Божай Маці; Андрэя, Даніэля.

# ЗВЯЗДА

21 ЛІПЕНЯ 1992 г. аўторак, № 144 (21922)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### Эгон КЛЕПШ: «РАЗАМ ШУКАЦЬ ШЛЯХ У БУДУЧЫНЮ»

З 17 па 22 ліпеня старшыня Еўрапарламента Эгон Клепш робіць візіт у краіны СНД — Беларусь, Расію і Украіну. Мэта місіі — устанаўленне трывалых кантактаў паміж гэтымі рэспублікамі і краінамі супольніцтва. Як лічаць члены дэлегацыі, еўрапейскі карабель пакуль што яшчэ недабудаваны, але пачаў ужо нялёгкае плаванне па бурных водах інтэграцыі. На адным з апошніх пасяджэнняў ЕС прынята рашэнне аб расшырэнні супрацоўніцтва з дзяржавамі Садружнасці па ахове навакольнага асяроддзя, у канверсіі, прыватызацыі, павышэнні бяспекі АЭС, сацыяльнай абароне насельніцтва.

Першы візіт кіраўніка Еўрапейскай парламенцкай асамблеі па краінах Садружнасці пачаўся з Беларусі. 18 ліпеня дэлегацыя наведала штаб-кватэру Рабочай групы Саветаў кіраўнікоў дзяржаў і кіраўнікоў урадаў СНД, размешчаную ў Мінску.

У той жа дзень дэлегацыя ЕС сустрэлася са Старшынёй Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіславам Шушкевічам. На прыёме размова ішла аб будучыні Беларусі і дзяржаў Садружнасці.

**Ларыса ЛАЗАР. (БЕЛІНФАРМ).**

### «ПАГОНЮ» ЗНОЙДЗЕЦЕ Ў КІЁСКАХ

ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. У кіёсках «Саюздруку» з'явілася новая беларуская газета «Пагоня» — выданне Гродзенскага абласнога культурна-асветніцкага фонду «Бацькаўшчына» — рэгіянальнай філіі Згуртавання беларусаў свету. Гэта васьміпалоснае выданне фармату «раёнкі», над якім працуе каля 10 чалавек. Выходзіць раз у тыдзень. Цяпер «Пагоня» — адзіная абласная грамадска-палітычная газета на беларускай мове. Дарэчы, у Гродна з 1919 года не выходзіла ніводнага перыядычнага выдання на роднай мове.

### УСЛЕД ЗА ЛІМОНАМІ — АЛЕЙ

Першыя 80 мільёнаў рублёў пералічаны на рахунак створанага ў ліпені беларуска-італьянскага партнёрскага фонду. Аб гэтым паведаміў вечарам 17 ліпеня на сустрэчы з журналістамі пасол Італьянскай Рэспублікі ў Беларусі Джан Лука Берцінета.

— Гэтыя грошы атрыманы ад рэалізацыі тысячы тон сіцылійскіх лімонаў, прысланых жыхарам Беларусі ў дар ад урада Італіі, — сказаў дыпламат. — Мы прааналізавалі вопыт размеркавання гуманітарнай дапамогі ў краінах СНД і прыйшлі да вываду, што бясплатнае размеркаванне прадуктаў дае непрацяглы эфект. Вырашылі, што больш разумна рэалізоўваць іх праз гандлёвую сетку, а выручаныя сродкі ўкладваць у аздараўленчыя праграмы, звязаныя з ліквідацыяй вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

Наступнай акцыяй будзе дабрачынная распрадажа аліўкавага алею, які таксама накіроўвае італьянскі ўрад у дар Беларусі.

**Валянціна МЕНШЫКАВА. (БЕЛІНФАРМ).**

## Пра людскасць



«Вы — правакатар!» — крычала ў твар інваліду жанчына, якая літаральна кіпела ад абурэння і злосці.

Чалавек без абедзвюх ног прыкаціў на сваёй калясцы на плошчу Перамогі, дзе ў гэты час сабраліся ўдзельнікі вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў. На грудзях у інваліда вісеў самаробны плакацік. Дзесяць радкоў тэксту абвінавачвалі ўладу, пракурораў і наогул увесь белы свет. Зразумела, з такім плакатам яшчэ зусім нядаўна ён сюды не трапіў бы, а каб і трапіў, то не больш як на нейкую хвіліну. І на гэты раз падышла міліцыя, але ўбачыла, што нічога дрэннага чалавек не робіць і пакінула яго ў спакоі. А асобныя людзі працягвалі зневажаць інваліда. Больш за ўсіх старалася не вельмі маладая, затое вельмі энергічная жанчына. І толькі адзін чалавек паглядзеў на ўсё гэта, паслухаў і сказаў: «Людзі добрыя, не дай Бог вам такога лёсу, як у гэтага чалавека».

Інвалід назваў сябе: Рыгор Іванавіч Гапоненка. Мы спыталі, дзе ён жыве. «Жыву, дзе давядзецца. Галоўным чынам у падвалах», — адказаў ён. Дык хто ён — правакатар ці проста няшчасны чалавек, якому, як паветра, патрэбны наша міласэрнасць і дапамога?

**Мікалай АМЕЛЬЧАНКА.**
Фота аўтара.

## БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ: РУКУ НА ДРУЖБУ

У маскоўскім «Прэзідэнт-атэлі» 20 ліпеня пачалася сустрэча ўрадавых дэлегацый Расіі і Беларусі на чале з кіраўнікамі кабінетаў Ягорам Гайдарам і Вячаславам Кебічам. У ходзе трохгадзінных перагавораў мяркуецца абмеркаваць рад пытанняў, якія датычаць ваенна-палітычнага і эканамічнага супрацоўніцтва дзвюх краін.

Адкрываючы сустрэчу, Ягор Гайдар падкрэсліў існуючы высокі ўзровень супрацоўніцтва Расіі і Беларусі ў ажыццяўленні эканамічных рэформ і ў станаўленні Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Ён адзначыў, што «сёння можна гаварыць не проста аб сустрэчы, а аб сумесным пасяджэнні ўрадаў дзвюх краін».

Ягор Гайдар сказаў, што да сённяшняй сустрэчы поўнасцю ўзгоднены і гатовы да падпісання дзевяць дакументаў. Гэта — Пагадненне аб умовах паставак прадукцыі, тавараў, сыравіны, прадуктаў харчавання паміж прадпрыемствамі і арганізацыямі; Пагадненне аб цэнаўтварэнні на прадукцыю міждзяржаўнага абмену; Пагадненне аб падатковай палітыцы; Пагадненне аб сумесным удзеле ў развіцці галін народнай гаспадаркі рэгіёнаў, правядзенні акцыяніравання, арганізацыі сумесных прадпрыемстваў і іншых формах узаемнага супрацоўніцтва; Пратакол аб сумесных дзеяннях па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС; Пагадненне аб каардынацыі супрацоўніцтва ў галіне транспарту і сувязі, у тым ліку чыгуначнага, паветранага і іншых; Пагадненне аб асноўных прынцыпах і ўмовах узаемаадносін у галіне транспарту нафты, нафтапрадуктаў і прыроднага газу; Пратакол аб разглядзе пытанняў узаемнай пастаўкі рэсурсаў па паліўна-энергетычнаму комплексу ў 1992 годзе; Дагавор аб супрацоўніцтве ў ваеннай галіне і звязаныя з ім пагадненні.

У папярэднім парадку дня сустрэчы ўрадавых дэлегацый Расіі і Беларусі таксама стаялі пытанні аб узгодненай грашова-крэдытнай і валютнай палітыцы дзвюх дзяржаў, якія захоўваюць рубель у якасці адзінага законнага плацежнага сродку, аб прынцыпах вылічэння і механізме абслугоўвання ўнутранага доўгу былога СССР насельніцтву, аб падзеле і абслугоўванні знешняга і ўнутранага валютнага доўгу, а таксама пытанне аб выкарыстанні маёмасці былога СССР за мяжой.

Як чакаецца, каля 18 гадзін пачнецца цырымонія падпісання двухбаковых дакументаў Ягорам Гайдарам і Вячаславам Кебічам.

**Іван ІВАНОЎ, кар. ІТАР—ТАСС спецыяльна для БЕЛІНФАРМа.**

### МЫ — НЕ БАНКРУТЫ, БАНКРУТЫ — НЕ МЫ

Намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкома Е. Шасцерыкова заявіла аб банкруцтве Магілёўскай універсальнай рэгіянальнай біржы. Аднак старшыня біржавага савета АТ «МУРБ» Б. Кліменка рашуча абверг паведамленне, з'едліва заўважыўшы, што «некаму ў гарвыканкоме захацелася свае мары выдаць за рэчаіснасць».

У пацвярджэнне сваіх слоў ён прывёў наступныя даныя: за апошнія паўгода гандлёвы абарот на Магілёўскай універсальнай біржы склаў 340 млн. рублёў (пры 100 млн. рублёў абароту за дзевяць месяцаў мінулага года), што прыносіла даходаў акцыянерам біржы толькі ад рэгістрацыйнага збору 1,2 млн. рублёў. «Фінансавае становішча біржы як ніколі стабільнае», — дадаў Б. Кліменка.

**Барыс МІХЕЕЎ, БелаПАН.**

## БЕЛІНФАРМ АДПРАЎЛЯЕЦЦА Ў ДАРОГУ

Чытач за доўгія гады, несумненна, прывык да таго, што на старонках газет рэспублікі рэгулярна паяўляліся паведамленні, падпісаныя абрэвіятурай «БЕЛТА». Беларускае тэлеграфнае агенцтва, якое нарадзілася ў далёкім 1918 годзе, апошнія дваццаць гадоў існавала як адно з ведамстваў пры Савеце Міністраў рэспублікі і карысталася правамі дзяржкамітэта. З першых дзён на яго была ўскладзена задача інфармаваць чытачоў аб дзейнасці дзяржаўных і іншых афіцыяльных структур, аб прымаемых рашэннях і іх выкананні, даваць па магчымасці самую шырокую карціну жыцця рэспублікі, у тым ліку і для саюзнай і зарубежнай аўдыторыі.

Не нам меркаваць, наколькі бездакорна гэта атрымлівалася. Але тое, што без матэрыялаў, падрыхтаваных журналістамі Беларускага тэлеграфнага агенцтва, не абыходзілася ні адна газета, ні адзін інфармацыйны выпуск тэлебачання і радыё рэспублікі, дае нам падставу лічыць: гісторыя Беларусі пісалася і нашымі пёрамі.

І вось БЕЛТА няма. У студзені гэтага года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, удасканальваючы структуру органаў кіравання, стварыў Міністэрства інфармацыі. Услед за гэтым рашэннем Савета Міністраў Беларускае тэлеграфнае агенцтва ўключана ў састаў Міністэрства інфармацыі і ліквідавана як адно з падраздзяленняў у структуры ўрада. Загадам міністра інфармацыі на базе БЕЛТА створана Беларускае інфармацыйнае агенцтва (БЕЛІНФАРМ), якое працуе на правах дзяржаўнага прадпрыемства.

БЕЛІНФАРМ, прымаючы эстафету ў БЕЛТА, будзе па-ранейшаму інфармаваць чытачоў аб дзейнасці парламента, яго Прэзідыума і камісій, урада, міністэрстваў і ведамстваў. Мы, як і раней, будзем старацца даваць як мага больш поўную хроніку падзей у рэспубліцы. Пры гэтым мы будзем кіравацца толькі Канстытуцыяй, заканадаўствам рэспублікі, а не партыйнымі пастановамі, як раней. Мы будзем паведамляць аб дзейнасці ўсіх партый, аб мерапрыемствах, якія імі праводзяцца, але не станем прапагандаваць ідэі і палітыку ні аднай з іх. Гэта, на наш погляд, неабходная ўмова зафіксавана ў палажэнні аб Беларускім інфармацыйным агенцтве. І будзем спадзявацца, што ніхто не перашкодзіць нам яе выконваць. Будзем спадзявацца таму, што, па праўдзе кажучы, ва ўмовах дэмакратыі і галоснасці ахвотнікаў камандаваць журналістамі не паменшала.

Галоўны адбітак на дзейнасць БЕЛІНФАРМа будзе рабіць тая акалічнасць, што БЕЛІНФАРМ — дзяржаўнае агенцтва суверэннай Беларусі, якая ўсё больш упэўнена выходзіць у свет, ажыццяўляе самастойную ўнутраную і знешнюю палітыку, сама распараджаецца сваім дабрабытам. Нам трэба будзе не адставаць ад гэтага поступу, што запатрабуе новага ўзроўню прафесіяналізму, аператыўнасці, сучасных сродкаў перадачы інфармацыі, адкрыцця карпунктаў у іншых краінах, устанаўлення сувязей са многімі агенцтвамі.

Мы будзем імкнуцца працаваць так, каб пра жыццё ў Беларусі ведаў свет, а Беларусь ведала пра жыццё ў іншых краінах.

Калектыў БЕЛІНФАРМа, маючы прафесіяналаў добрага класа, разумеючы свае задачы і сваю адказнасць, адпраўляецца ў дарогу.

**Якаў АЛЯКСЕЙЧЫК, генеральны дырэктар Беларускага інфармацыйнага агенцтва.**

### БЕЗ ВЫКЛЮЧЭННЯЎ ДЛЯ ПРАВАСЛАЎНЫХ

ЖЛОБІН. Ужо другое лета запар жлобінская абшчына хрысціян-католікаў арганізуе для дзяцей Жлобіна і раёна паездкі на адпачынак у Польшчу. Днямі туды выехала чарговая група дзяцей у колькасці 22 чалавек — ад 7 да 15 гадоў.

Амаль тры тыдні яны будуць жыць у прафілакторыі і ў сем'ях палякаў. Усе расходы, звязаныя з паездкай, бярэ на сябе касцёл. Нягледзячы на гэта, жлобінскія каталікі пры фарміраванні групы ўключылі ў яе і дзяцей з сем'яў праваслаўных. Плануецца, што ў жніўні туды адправіцца яшчэ адна група са Жлобіншчыны.

### ЗНОЎ «ЗАЙЦЫ»

«Зайцоў», ці, як кажуць, безбілетнікаў, чыгуначнікі не любяць. Лепш, калі не хочаш непрыемнасцей, дамовіцца з праваднікам.

Не ў пашане тут зайцы і іншая фауна і на беларускіх грошах. Напрыклад, на чыгуначнай станцыі Ганцавічы і прыпыначным пункце Якуба Коласа ў вёсцы Люсіна Брэсцкай вобласці іх дагэтуль пры разліках не прымаюць пад рознымі адгаворкамі.

**М. БАБОК.**



### РЫНАК ІМЯ ЛЕНІНСКАГА КАМСАМОЛА?

САЛІГОРСК. Хутка горад будзе мець свой рынак, які мала ў чым уступіць сталічнаму Камароўскаму. У наступным годзе пачнецца яго ўзвядзенне насупраць вакзала па вуліцы Ленінскага камсамола. Кошт будаўніцтва ў цэнах мінулага года перавышае 6 мільёнаў рублёў.

Праект рынку прывабны. Крыты павільён зойме 1.500 квадратных метраў, побач — магазіны, дзе можна набыць прамтавары, сельгаспрадукты, а таксама тавары кааператываў. Тут жа будуць кіёскі, кафэ на 50 месц, памяшканні для прыёму і захоўвання прадуктаў. Агародніна, мяса, малако будуць захоўвацца ў кладоўках падвала, адкуль падавацца да прылаўкаў грузавым ліфтам.

## РАДЫЁФАКТ

Лідэры краін СНД плануюць правесці сустрэчу ў вярхах у верасні. З паінфармаваных крыніц сталі вядомыя дата і месца сустрэчы — 25-га, Бішкек.

***

Інстытут сацыялагічных даследаванняў Акадэміі навук Беларусі правёў адкрытае апытанне насельніцтва аб палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы. Сабрана 495 анкет, выказана 537 прапаноў.

У раздзеле «Эканоміка» большасць апытаных чакае прыватызацыі і ўвядзення нацыянальнай валюты. У раздзеле «Палітыка» палавіна апытаных лічыць, што трэба менш гаварыць, а больш працаваць. Амаль аднолькавая колькасць жыхароў рэспублікі за аднаўленне СССР і за тое, што трэба прыслухоўвацца да прапаноў лідэраў БНФ.

***

На аўтамабільным пераходзе «Варшаўскі мост» у гэтыя дні самыя доўгія чэргі за апошнія тыдні. Чакаць выезду за мяжу давядзецца не менш трох сутак.

Тым часам у Рэспубліцы Польшча ўведзена 25-кіламетровая прыгранічная зона, дзе пагранічнікі маюць права правераць дакументы ў кожнага прыезджага.

***

Брэсцкі ваенны шпіталь усё часцей прымае на лячэнне ваеннаслужачых, якія пацярпелі зусім не пры выкананні баявых задач. Тут пачасціліся нападзенні на афіцэраў, якія прыбываюць з Заходняй групы войск і накіроўваюцца праз абласны цэнтр у краіны СНД. Ваенныя церпяць, спрабуючы абараніць сябе ад грабяжоў з боку айчынных рэкеціраў.

***

З 20 ліпеня ў Латвіі ўведзена ўласная валюта. Цяпер тут сапраўдны толькі латвійскі рубель. У абменных пунктах яго можна набыць за адзін расійскі рубель і 5 капеек.

***

Работнікі бабруйскага медвыцвярэзніка за ўсё існаванне сваёй установы не сустракалі яшчэ такога кліента, які быў нядаўна дастаўлены сюды ў цяжкай ступені ап'янення. У дыпламаце наведвальніка знаходзіліся паўмільёна рублёў наяўнымі і дзве чэкавыя кніжкі на два мільёны.

«Багаты госць», што быў падабраны міліцыяй на бабруйскім рынку, аказаўся грамадзянінам Расіі.

Сапраўды моцная беларуская гарэлка, калі валіць з ног такіх магнатаў...

### УРАДЖАЙ-92
## НАДЗЕІ І ТРЫВОГІ ХЛЕБАРОБАЎ

**ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. 385 тысяч гектараў займаюць сёлета на Гомельшчыне збожжавыя і зернебабовыя культуры. Масавая ўборка іх чакаецца 25—27 ліпеня. Але ўжо зараз у некаторых паўднёвых раёнах (Мазырскім, Рэчыцкім, Лельчыцкім і іншых) ідзе ўборка азімага ячменю «вавілон», насенне якога некалі было закуплена ў Стаўрапольскім краі.**

Ураджаем яго задаволены — 30 цэнтнераў з гектара. У Брагінскім і Хойніцкім раёнах з палёў азімай пшаніцы, дзе работы вядуцца выбарачна, таксама з кожнага гектара намалочваецца амаль 30 цэнтнераў.

— Мы мяркуем сабраць сёлета збожжавых больш за 28 цэнтнераў з гектара, — гаворыць намеснік старшыні абласнога камітэта па сельскай гаспадарцы і прадуктах харчавання Іван Раманаў. — Галоўная задача заключаецца ў тым, каб не страціць ніводнага кілаграма збожжа.

Гаруча-змазачных матэрыялаў на час уборкі — дзякуй ураду рэспублікі, які паклапаціўся пра гэта — у дастатку. Праўда, да апошняга часу гаспадаркі не маглі выкупіць іх, бо разлік з нафтабазамі ажыццяўляецца з папярэдняй аплатай. Калгасы, саўгасы і раённыя забеспячэнскія арганізацыі толькі што атрымалі ад дзяржавы крэдыт і вырашылі гэта пытанне.

У наяўнасці 3.774 збожжаўборачныя камбайны. 80 працэнтаў іх на дзень нашай гаворкі ўжо гатовы былі выехаць у поле. Астатнія стаяць на прыколе, бо доўгі час не было магчымасці набыць акумулятары. Суседка Украіна запатрабавала за іх папярэднюю аплату. Зараз гэтыя камплектуючыя пачалі паступаць адтуль і на працягу тыдня будуць устаноўлены на агрэгатах. Ёсць замінкі і з падшыпнікамі, якія пастаўляе Малдова.

У поўным парадку збожжасушыльная гаспадарка, наладзіць якую таксама было няпроста. Балючае пытанне — уборка саломы: няма шпагату для цюкавання, цэны на які неймаверна ўзраслі і які трапіў у разрад дэфіцыту. Чакаецца, што толькі 10 працэнтаў будзе зацюкавана. Астатнюю прыйдзецца стагаваць, а спецыяльнай тэхнікі для гэтай работы даўно ўжо не хапае.

Пакуль што адкрытым застаецца і пытанне з механізатарамі, многія з якіх у сувязі з чарнобыльскімі падзеямі выехалі на пастаяннае пражыванне ў іншыя рэгіёны рэспублікі. Асаблівых надзей на дапамогу гараджан няма. На нарадах, якія праходзілі з удзелам старшынь гарвыканкомаў, апошнія аптымізму вяскоўцам не прыбавілі. Праўда, хто-ніхто з іх паспрабаваў выйсці на прамыя кантакты з кіраўнікамі прадпрыемстваў. Так, вытворчае аб'яднанне «Гомсельмаш» па просьбе кіраўнікоў Брагінскага раёна паслала туды атрад па нарыхтоўцы кармоў і выдзеліла 15 механізатараў для дапамогі ва ўборцы збожжавых. Але гэта пакуль што ўсё. Шкада, што прадстаўнікі такіх гарадоў, як Гомель, Мазыр, Светлагорск і іншых, не гараць жаданнем рабіць з вяскоўцамі агульную

(Заканчэнне на 3-й стар.).

### *Уладзімір ПАРФЯНОВІЧ:*
## «РАЎБІЧЫ, ВЯДОМА, — НЕ ФЛАРЫДА. І ЎСЁ-ТАКІ...»



**Трохразовы чэмпіён Алімпійскіх гульняў, заслужаны майстар спорту, дзевяціразовы чэмпіён свету, прэзідэнт Асацыяцыі каноэ Рэспублікі Беларусь, проста вясёлы і абаяльны мужчына ў росквіце сіл і энергіі — і ўсё гэта наш славуты зямляк, спартсмен, былы байдарачнік Уладзімір Парфяновіч. Напэўна, шматлікія аматары спорту памятаюць яго бліскучы «хет-трык» на Маскоўскай Алімпіядзе, дзе ён, не пакінуўшы ніякіх шанцаў супернікам, заваяваў тры алімпійскія медалі. Пасля таго было яшчэ многа ўпэўненых перамог на розных сусветных спартыўных форумах, але ўзроставыя рамкі не дазваляюць выступаць бясконца. Сёння Парфяновіч у нейкім родзе спартыўны функцыянер, але ў адрозненне ад сваіх кансерватыўных сабратоў, што называецца, хварэе за будучае надзвычай відовішчнага віду спорту, афіцыяльная назва якога — веславанне на байдарках і каноэ. Каб не быць галаслоўным — слова нашаму госцю.**

**— Найперш, ці будзеце вы ў якасці «настаўніка маладых» назіраць за дзеяннямі сваіх калег непасрэдна ў Барселоне?**

— Хутчэй за ўсё ў Барселону выбрацца не ўдасца. Каб туды трапіць, прыйшлося б патрабаваць 1.800 долараў на аплату пуцёўкі, а трапляць да некага ў залежнасць мне не выпадае. Але паехаць хацелася б — прынамсі, нейкая мая парада напярэдадні стартаў не пашкодзіла.

**— Ці будуць прадстаўлены на Алімпіядзе чыста беларускія экіпажы весляроў?**

— Сфарміравана беларуская каноэ-двойка Масяйкоў—Даўгалёнак (500 метраў). У адзіночцы на такую ж дыстанцыю пойдзе Калеснік. Акрамя таго, нашы хлопцы будуць задзейнічаны ў змешаных экіпажах. На каноэ-двойцы (1.000 метраў) выступяць Грамовіч — Іграеў (апошні ўкраінец), байдарка-двойка — той жа Калеснік і расіянін Цішчанка. Увогуле беларускіх спартсменаў будзе чацвёра, і яны выступяць у чатырох, калі не ў пяці відах праграмы. Дарэчы, гэта вельмі высокі паказчык, і далёка не ўсе краіны могуць пахваліцца аналагічным.

**— На ваш погляд, ці варта на хвалі павальнай суверэнізацыі спяшацца з фарміраваннем экіпажаў па дзяржаўнай прыналежнасці?**

— А куды ж адцягваць? Дарэчы, 16 ліпеня на Кубку свету ў Гамбургу самастойнай камандай будзе заяўлена зборная юніёраў Беларусі. І гэта вялікае дасягненне, над якім у поце твару прыйшлося папрацаваць. А на Маскву азірацца ўжо няма патрэбы. Там вырашаюцца свае праблемы. Дарэчы, часам спрэчным шляхам. Мы, напрыклад, выступаем катэгарычна супраць таго, каб Расія стала пераемніцай Саюза. Гэта, прабачце, проста некарэктна, калі літаральна ва ўсіх відах спорту Расія расхапала рэгаліі, заваяваныя некалі сумеснымі намаганнямі. Відаць, толькі ў кулявой стральбе перамагла справядлівасць: на Алімпіяду трапіць чэмпіён СНД. Чаму б не зрабіць нешта падобнае і ў астатніх дысцыплінах? Пакуль жа Расія бесперашкодна прадаўжае «засяляць» вакантныя дзіркі ад былога Саюза ССР. Можна зразумець расійскіх трэнераў, якія ведаюць, што ў выпадку адступлення ад здзяйснення першапачатковых планаў іх чакае... беспрацоўе. Нікому не хочацца апынуцца на вуліцы.

**— Крыху апярэджваючы падзеі: якое, на ваш погляд, рэальнае месца ў свеце будучай зборнай Беларусі ў веславанні на байдарках і каноэ?**

— Я думаю, парадку шостага—восьмага. Калі больш канкрэтна, то гэта недзе ў кагорце Германіі, Венгрыі, ЗША, Аўстраліі, Новай Зеландыі. Хаця з кожным годам усё больш складана будзе ўтрымацца ў першай дзесятцы. Па-першае, веславанне ўпэўнена набірае абароты папулярнасці (на Алімпіядзе будуць прадстаўнікі 40 краін свету), а па-другое, немалаважную ролю будзе мець і падрыхтоўчы перыяд. Дастаткова сказаць, што 14 нацыянальных каманд да барселонскіх стартаў рыхтаваліся ў Фларыдзе (ЗША). Наша каманда «кукавала» ў Краснадары, дзе не было ні вады, ні харчавання, ні арганізаванай дастаўкі да месц трэніроўкі, да таго ж халадэча сабачая. Калі ўлічыць, што на ўвесь спартыўны інтэрнат быў адзін душ, то не варта і параўноўваць умовы краснадарскія і фларыдскія.

**— І ўсё-такі на некага вы «ставіце»?**

— Спадзяёмся і на Калесніка, і на дуэт Масяйкоў—Даўгалёнак. Я ўпэўнены, што хлопцы будуць змагацца за залатыя медалі, — не проста за выхад у фінал, а менавіта за першыя месцы.

**— Як плануеце працаваць: нельга ж усё жыццё трэніравацца ў экстрэмальных умовах.**

— Згодзен. Але тут праблема ў фінансах. Справа ў тым, што ёсць ці няма месц для трэніровачнага працэсу. Пры жаданні можна махнуць і ў тую ж Амерыку, і ў Новую Зеландыю, і ў Абхазію, дзе мы трэніраваліся спрадвеку. Але наўрад ці хто возьмецца праспансіраваць такія «раскошныя» трэніроўкі.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

